Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 19 650.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-85-49

# НАВІНЫ



Аўторак, 21 красавіка 1998 г. | № 41 | Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Нават бульба стала дэфіцытам

**У розных рэгіёнах Беларусі зноў устаноўленыя нормы продажу харчовых тавараў.**

Як адзначаецца ў адпаведным распараджэнні Мінскага аблвыканкама, якое ўступіла ў сілу ў красавіку, гэта зроблена «у мэтах спынення неарганізаванага і несанкцыянаванага вывазу тавараў за межы рэспублікі і разумнага расходавання таварных рэсурсаў». Згодна з устаноўленымі нормамі, аднаму пакупніку дазваляецца прадаваць не больш за 2 кг мяса і птушкі, 1 кг каўбасы, 0,4 кг масла і 0,5 кг алею, 400 грамаў сыру, 2 кг цукру і столькі ж мукі, крупаў, макаронных вырабаў і хлеба.

Яшчэ больш жорсткія нормы ўстаноўленыя ў Магілёўскай вобласці. Напрыклад, масла і сыру тут у адны рукі можна атрымаць не больш за 300 г. У разрад дэфіцыту на Магілёўшчыне трапіла і бульба, так званы «другі хлеб» беларусаў: яго адпускаюць пакупнікам не больш за 10 кг.

*БелаПАН*

## Сёння Севярынец павінен вярнуцца ў турму

**Лідэр Маладога Фронту Павел Севярынец быў у мінулую суботу часова вызвалены са следчага ізалятара, дзе ён трэці тыдзень утрымліваецца ў сувязі з заведзенай супраць яго крымінальнай справай.**

Прычына — няшчасце ў сям'і Паўла: у яго 17 красавіка памёр пляменнік. Хлопчык, якому было 1 год і 3 месяцы, пакутаваў ад прыроджанага парока сэрца. У Мінску яму зрабілі аперацыю, аднак яна не выратавала.

Сёння ўвечары Севярынец павінен зноў вярнуцца на «валадарку». Учора, калі нумар падпісваўся ў друк, Павел разам з адвакатам Іванам Дударавым знаходзіўся ў пракуратуры Савецкага раёна на допыце ў следчага Голубева. У размове з карэспандэнтам НАВІНАЎ лідэр Маладога Фронту паведаміў, што ён не збіраецца хавацца ад следства, хоць яму псіхалагічна вельмі цяжка вяртацца ў турму.

Са словаў Паўла, ягоныя суседзі па камеры — цалкам прыстойныя людзі, якія падазраюцца ў гаспадарчых злачынствах, у яго з імі склаліся «нармальныя адносіны», не дапякаюць асабліва і ахоўнікі.

Тым часам сабрана ўжо больш за дваццаць паручальніцтваў вядомых у Беларусі людзей, якія выказваюць просьбу змяніць Севярынцу меру стрымання на іншую, не звязаную з арыштам. Паручальнікі бяруць на сябе абавязацельства ў тым, што Павел, знаходзячыся на волі, не стане хавацца і не будзе перашкаджаць устанаўленню ісціны. У выпадку невыканання гэтых умоваў паручальнікі гатовыя панесці адказнасць, прадугледжаную законам. За Паўла Севярынца паручыліся народныя паэты Беларусі Рыгор Барадулін і Ніл Гілевіч, старшыня Саюза пісьменнікаў Васіль Зуёнак, народны мастак Беларусі Леанід Шчамялёў, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Радзім Гарэцкі, старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі, лідэр Аб'яднанай грамадзянскай партыі Станіслаў Багданкевіч, журналісты Ірына Халіп і Ігар Гермянчук, галоўны рэдактар часопіса «Спадчына» Вячаслаў Ракіцкі і інш.

Лідэр Маладога Фронту па-філасофску ставіцца да праблемы свайго вызвалення. *«Калі рэжым трымае мяне ў турме, значыць ён баіцца Севярынца, але за кратамі я яшчэ больш небяспечны для ўлады»*, — гаворыць Павел. Ён вельмі ўдзячны ўсім сваім сябрам, родным і знаёмым, якія ўдзельнічаюць у кампаніі за яго вызваленне.

Заўтра суд Маскоўскага раёна Мінска павінен разглядаць хадайніцтва адваката Паўла аб змяненні яму меры стрымання на падпіску аб нявыездзе.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Два яйкі з рук мітрапаліта

**У нядзелю ў Свята-Духавым саборы на велікодным набажэнстве пабываў прэзідэнт Лукашэнка.**

Яго суправаджалі прэм'ер-міністр, спікеры абедзвюх палат А.Малафееў і П.Шыпук, генеральны пракурор А.Бажэлка, віцэ-прэм'ер У.Замяталін і намеснік кіраўніка адміністрацыі І.Пашкевіч. На набажэнстве таксама прысутнічаў амерыканскі пасол Дэніэл Спекхард і пасланнік Папы Рымскага Дамінік Грушоўскі.

У сваім выступленні мітрапаліт Філарэт выказаў пажаданне, што *«другі дзень Пасхі мы зможам святкаваць беспрашкодна, як гэта было раней»*. Уладыка Філарэт спадзяецца на «мудрасць» уладаў.

Мітрапаліт таксама перадаў прэзідэнту Лукашэнку віншаванне Патрыярха Маскоўскага і ўсея Русі Алексія II, павіншаваў і падзякаваў за ахвяраваную тэхніку на адноўленне Нова-Іерусалімскага манастыра пад Масквой. У падарунак прэзідэнт Лукашэнка атрымаў два велікодныя яйкі: ад патрыярха Алексія II і ад мітрапаліта Філарэта.

**Сяргей КАВАЛЁЎ**

# Камерцыйныя аптэкі на мяжы экспрапрыяцыі

**У адміністрацыі прэзідэнта Беларусі падрыхтаваны праект дэкрэта аб фактычнай нацыяналізацыі недзяржаўных аптэк. Калі дэкрэт будзе падпісаны (а па нашых звестках, праект ужо пакладзены Лукашэнку на стол), гэта будзе першы выпадак экспрапрыяцыі цэлай галіны прыватнага бізнесу.**

Рабочая назва праекта — «Аб мерах па забеспячэнню канстытуцыйнага права грамадзянаў на ахову здароўя». Спасылка робіцца на артыкул канстытуцыі, які гарантуе грамадзянам Беларусі роўныя правы на ахову здароўя. Распрацоўшчыкі дэкрэта, відаць, упэўненыя, што само існаванне так званых камерцыйных аптэк і аптэчных кіёскаў парушае правы беларускіх грамадзянаў атрымліваць медыцынскую дапамогу па справядлівасці.

Прэтэнзіі да камерсантаў не называюцца, аднак з тэксту дэкрэта можна зразумець, што прадпрымальнікаў абвінавачваюць у нажыве на хворых грамадзянах. Таму і вырашана ўвесці манаполію дзяржавы на продаж лекаў, медыцынскіх вырабаў і тэхнікі, а ў прыватнікаў забраць ліцэнзіі на гандаль, што азначае фактычную нацыяналізацыю іхніх прадпрыемстваў. Вызначаны тэрмін, на працягу якога камерсантам дазваляецца прадаць запасы лекаў і медыцынскай тэхнікі — на гэта даецца толькі адзін месяц. Праз месяц усё, што засталося нерэалізаваным (у тым ліку гандлёвае ды іншае абсталяванне) належыць здаць урадавым камісіям. Праўда, прыватнікам абяцаюць кампенсаваць страты — але толькі ў тым выпадку, калі камісія прыйдзе да высновы, што маёмасць была набытая «чэсна».

*(Працяг на стар. 2)*



ДЕКРЕТ
ПРЕЗИДЕНТА РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

О мерах по обеспечению конституционного права граждан на охрану здоровья

В целях обеспечения конституционного права граждан на охрану здоровья и в соответствии с частью третьей статьи 101 Конституции Республики Беларусь постановляю:

1. Установить, что:

1.1. на территории Республики Беларусь исключительное право на реализацию лекарственных средств, изделий медицинского назначения и медицинской техники принадлежит государству.

Реализация лекарственных средств, изделий медицинского назначения и медицинской техники, разрешенных к применению в медицинской практике в Республике Беларусь, осуществляется через государственные аптечные учрежде... если иное не предусмотрено настоящим Декретом, по ценам, регули... уполномоченными государственными органами;

...реализации лекарственных средств, изделий медицинского назн... ской техники, за исключением оптовой торговл... ос... ветствии с законодательством, посреднических ...

...ца со дня вступления в силу настоящего ...изъятию специальные разрешения ...редств, изделий медицинского на... ...че юридическим лицам, основа... предпринимателям, осуществля... ...идического лица (далее – негосуд...

До аннулиро... ...лицензий) соответствующие негосу...

вправе осуществлять ... изделий медицинского назначен... порядке под руководством и конт... органов;

обязаны передать лекарс... ...о назначения и медицинскую техн... ...ное имущество, используемое для ... ...м по учету и оценке такого имущес... ...ятель... ...анных

3. Настоящий Декрет вступает в силу со дня его опубликования, является временным и в соответствии с частью третьей статьи 101 Конституции Республики Беларусь представляется на рассмотрение Национального собрания Республики Беларусь.

Президент Республики Беларусь А.Лукашенко

Визировали:
М.В.Мясникович
А.М.Абрамович
А.Л.Пласкович
Ж.И.Адам...
А.М.Е...

# Прэзідэнт пасылае краіну ў мінулае

Упярэдвелікодную пятніцу — дзень пакутаў Ісуса Хрыста на крыжы, дзень асаблівай жалобы і пакаяння для вернікаў хрысціянаў, — Лукашэнка выступаў з пасланнем да свайго нацыянальнага сходу. Не было пакаяння. Была пахвальба.

### Што мы будуем?

Аказваецца, не проста *«унітарную дэмакратычную сацыяльную прававую дзяржаву»*, але яшчэ і краіну з вялікімі, нягледзячы на сціплыя памеры, амбіцыямі. *«Галоўнай мэтай выпрацаванага кіраўніцтвам краіны і паслядоўна рэалізуемага дзяржаўнага курсу Рэспублікі Беларусь з'яўляецца забеспячэнне магутнасці нашай Радзімы»*, — абвесціў Лукашэнка ў стылі часоў развітога «застою». У адпаведным тоне была вытрыманая амаль уся прамова. Было відаць, што прэзідэнт адчуў сябе на вяршыні магутнасці і славы. Ёсць поспехі, якія ён можа паставіць сабе ў заслугу. Значыць, трэба запэўніць усіх у тым, што абраны шлях — правільны.

Павялічыўся аб'ём вытворчасці. Выраслі заробкі. Падняліся пенсіі. Больш стала інвестыцыяў. Менш беспрацоўных. Будуюцца дамы. Праводзяцца святы яднання і фестывалі сяброўства. *«Мы будуем грамадства, якое гарантуе і надзейна абараняе правы і свабоды асобы, нацыянальнае і рэлігійнае раўнапраўе, дзе пануе закон і падтрымліваецца надзейны правапарадак»*. Адной гэтай фразы інфармаванаму чалавеку дастаткова, каб ацаніць ступень аб'ектыўнасці ўсёй прамовы. Але тым не менш прэзідэнт



прапануе праграму, разлічаную аж на да 2015 года.

### Працаваць трэба!

Усяму галава — эканоміка, раз за разам паўтарае прэзідэнт. І тлумачыць канкрэтна: *«Мы ідзем ад эканомікі з выключна дзяржаўнай маёмасцю да шматукладнай»*. Але факты сведчаць, што апошнім часам дзяржава, наадварот, пачала вывязваць змагацца з шматукладнасцю. Як інакш расцаніць фактычную манапалізацыю знешняга гандлю? Прыпыненне прыватызацыі, штучнае стрыманне цэнаў, кіраванне курсам рубля з дапамогай загадаў? Няўжо сапраўды «пераболшыла небяспеку» місія МВФ, якая прыпыніла супрацоўніцтва з Беларуссю менавіта з прычыны антырынкавага курсу? Ніякіх адказаў на гэтыя відавочныя супярэчнасці ў прамове прэзідэнта не было. Нам не трэба *«бязмозглых рэформаў»* — вось і ўвесь адказ усім, хто сумняваецца.

З прэзідэнцкага паслання вынікае, што стыль кіравання эканомікай не толькі не будзе лібералізаваны, але стане яшчэ больш жорсткім. Цэны *«па-ранейшаму будуць рэгулявацца»*. На газ, нафту, транспарт, сувязь, жыллё, асноўныя тавары і паслугі. Канечне, насельніцтва, асабліва людзі з малымі даходамі, будуць такія заявы толькі вітаць. Але для вытворцаў, як дзяржаўных, так і прыватных, даўно відавочная бесперспектыўнасць такой палітыкі. Дэфіцыт некаторых прадуктаў харчавання ў беларускіх крамах і нават на рынках, як вынік «рэгулявання», ужо становіцца рэальнасцю.

### На нас ідуць «сурагаты»

Сацыялізм як лад жыцця адрозніваўся не толькі спецыфічнай эканомікай, але і асаблівай мараллю, асаблівымі адносінамі з усім светам. Як вынікае з прэзідэнцкай прамовы, вяртанне да гэтых асаблівасцяў нам таксама гарантаванае.

*«Трэба абмежаваць уплыў псеўдакультурных сурагатаў, усталяваць бясспрэчны прыярытэт нацыянальнай беларускай культуры над заходняй масавай культурай»* — ставіць задачу А.Лукашэнка. Пры гэтым адзначым: ва ўсёй двухгадзіннай прамове прэзідэнта прагучала толькі адно слова па-беларуску (ён узгадаў, што беларускі народ *«памяркоўны»*). Дык ці варта чакаць плёну ад такога *«прыярытэту нацыянальнай культуры»*?

А пакуль прыярытэтнай становіцца барацьба з ідэямі дэмакратыі. Разгортваецца контрпрапаганда ў стылі брэжнеўскіх часоў: *«Заходнія дзяржавы трацяць вялікія грошы, каб праводзіць лінію апазіцыі на тэрыторыі нашай дзяржавы... Цалкам распісваецца, колькі, куды і каму»*, — упэўнена гаворыць прэзідэнт з трыбуны парламенцкага сходу.

У выкрыцці як унутраных, так і знешніх ворагаў у Лукашэнкі сапраўды *«бясспрэчны прыярытэт»*. Як раней у ЦК КПСС.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Пустая сенсацыя

**Ананімны супрацоўнік адміністрацыі прэзідэнта паведамляе аб канфідыцыйных перамовах, якія нібыта вядуцца паміж атачэннем Лукашэнкі і прадстаўнікамі БСДП Народная Грамада.**

Такая інфармацыя змяшчаецца ў безыменным факсе, які атрымалі ў мінулую пятніцу мінскія карэспандэнты РТР. Прадмет перамоваў надзвычайны: фармаванне кааліцыйнага ўрада Беларусі. Па словах неназванага інфарматара, старшыня палаты прадстаўнікоў А.Малафееў, яго намеснік У.Канаплёў, намеснік міністра замежных справаў Н.Мазай і дзяржсакратар Савета бяспекі В.Шэйман вядуць дыялог з кіраўнікамі Грамады М.Грыбам і У.Нісцюком. У паведамленні сцвярджаецца, што прэзідэнцкае атачэнне хоча пры дапамозе сацыял-дэмакратаў здзейсніць дыпламатычны прарыў на Захад, перш за ўсё ў Германіі. Далей «людзі прэзідэнта» ставяць на мэце пераканаць грамадоўцаў удзельнічаць у фармаванні кааліцыйнага ўрада, у якім прадстаўнікам БСДП прапануецца сем міністэрскіх партфеляў. Па словах аўтара ананімкі, Лукашэнка выказаў думку, што новы ўрад «народнага адзінства» можа ўзначаліць М.Мясніковіч, а першым віцэ-прэм'ерам стаць М.Грыб. У выпадку, калі сацыял-дэмакраты дадуць сваю згоду, прэзідэнт можа пайсці і на нечарговыя парламенцкія выбары ў лістападзе 1998 года. Спрабуючы надаць вагу сваёй інфармацыі, аўтар піша, што кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі М.Мясніковіч нядаўна наведаў штаб-кватэру БСДП і паўтары гадзіны гаварыў з лідэрам гэтай партыі Міколам Статкевічам.

Многія рэчы ў паведамленні (напрыклад, ідэя з дапамогаю БСДП пераканаць фінансавыя колы Еўропы ў неабходнасці прывязкі беларускага рубля да нямецкай маркі) адразу выклікалі сумнеў. Мы патэлефанавалі ў штаб-кватэру сацыял-дэмакратаў, і прэс-сакратар Народнай Грамады Лявон Дзейка назваў паведамленне фальшыўкай, накіраванай на дыскрэдытацыю іхняй партыі і на раскол у дэмакратычным лагеры. *«Міхаіл Мясніковіч ніколі не наведваў нашую штаб-кватэру, а шэраг прозвішчаў, названых у ананімцы, нікому ў БСДП не вядомыя»*, — сказаў сп.Дзейка. Кіраўніцтва сацыял-дэмакратаў лічыць, што любы дыялог апазіцыйных сілаў з уладамі можа весціся толькі на аснове Канстытуцыі 1994 г.

Падобнай думкі прытрымліваюцца і саюзнікі сацыял-дэмакратаў. Генадзь Карпенка, Станіслаў Шушкевіч і Лявон Баршчэўскі таксама ўпэўненыя, што распаўсюджаная ў лісце інфармацыя не адпавядае сапраўднасці. Аднак яны не сталі даваць каментарыі наконт таго, адкуль магла б зыходзіць гэтая фальшыўка.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

*КАДРЫ*

## Зорны час скончыўся...



# Трошкі лепш, чым Ангола і Куба

**У сусветным рэйтынгу плацёжаздольнасці краінаў Беларусь займае толькі 122-е месца.**

Апублікаваны нядаўна амерыканскім банкаўскім часопісам *Institutional Investor* рэйтынг адлюстроўвае сучасны ўзровень фінансавай стабільнасці і плацёжаздольнасці дзяржаваў свету. У спісе больш як 130 краінаў ацэненыя па 100-бальнай шкале. Узначальвае спіс Швейцарыя — 92,6 бала. Далей ідуць ЗША (таксама 92,6), Германія (92,3), Японія (90,8), Нідэрланды (90,5), Францыя (89,3), Вялікабрытанія (89,3), Люксембург (88,3) і г.д. Сярод краінаў былога СССР самае высокае — 61-е месца — мае Эстонія. З дзяржаваў—удзельніц СНД найлепшы рэйтынг у Расіі: 82-е месца; індэкс — 31,2.

Беларусь за апошнія паўгода страціла 1,6 бала і апусцілася з 121-й на 122-ю пазіцыю. Індэкс плацёжаздольнасці нашай краіны складае ўсяго 12,9. Ніжэй за Беларусь у спісе стаяць Гаіці, Ангола, Куба, Албанія і г.д. Замыкае рэйтынг Паўночная Карэя.

*БелаПАН*

## Арышты

У Асіповіцкім гарнізоне, што ў Магілёўскай вобласці, арыштаваныя два прапаршчыкі, якія кіравалі вайсковымі складамі і паціху кралі боепрыпасы. Самым «хадавым» таварам былі патроны да аўтамата Калашнікава, артылерыйскія снарады і порах. Каму і колькі прадалі — высвятляе следства.

## NATO

Заўтра Генеральны сакратар *NATO* Хав'ер Салана прыме даверчыя лісты ад пасла Беларусі ў Бельгіі Уладзіміра Лабунова.

## Зброя

А.Лукашэнка сцвярджае, што Беларусь можа самастойна мадэрнізаваць бранятанкавую і авіяцыйную тэхніку. Прычым нашыя заводы, паведаміў прэзідэнт, маюць тэхналогіі рамонту бронетэхнікі, якіх няма больш нідзе ў свеце. А вось справы з мадэрнізацыяй стралковага ўзбраення кепскія: для гэтага ў краіне няма адпаведнай базы.

## Уласнасць

34% прадпрыемстваў Магілёўскай вобласці працуюць на сённяшні момант са стратамі. У параўнанні з мінулым годам лічба вырасла ў 2,6 раза. Амаль усе стратныя прадпрыемствы — гэта тыя, што належаць дзяржаве, і так званыя «народныя», з калектыўнай формай уласнасці.

## Фестываль

Міжнародны фестываль юных талентаў «Зямля пад белымі крыламі» пройдзе ў Мазыры з 25 красавіка па 1 траўня. У ім прымуць удзел маладыя таленты з Украіны, Расіі, Польшчы, Японіі, Ізраіля, Балгарыі і іншых краінаў свету.

# Нафтавы доўг будзе расці

**Аляксандр Лукашэнка прызнаецца, што Беларусі няма чым плаціць за расійскую нафту, але вінаватая ў гэтым сама Расія.**

16 красавіка прэзідэнт Лукашэнка сустракаўся з кіраўнікамі буйнейшых расійскіх нафтавых кампаніяў. У Мінск, у прыватнасці, прыбылі прэзідэнт кампаніі «ЛукОЙЛ» Вагіт Алекпераў, прэзідэнт нафта-газавай кампаніі «Славнефть» Анатоль Фамін, прэзідэнт нафтавай кампаніі «ЮКОС» Сяргей Мураўленка і першы віцэ-прэзідэнт кампаніі «Сургутнефтегаз». Як паведамілі ў прэс-службе прэзідэнта, ініцыятарам сустрэчы выступіў беларускі ўрад — у сувязі з тым, што ўзніклі сур'ёзныя цяжкасці ў разліках за нафту.

Як паведамляе БелаПАН, на сустрэчы таксама прысутнічалі кіраўнікі беларускіх нафтаперапрацоўчых заводаў — наваполацкага ВА «Нафтан» і Мазырскага НПЗ. А.Лукашэнка заявіў журналістам, што вельмі важны прадмет гаворкі — перспектывы рэфармавання айчынных нафтаперапрацоўчых заводаў. Ён сказаў, што заходнія кампаніі прапаноўваюць сёння свае паслугі і крэдыты пад рэканструкцыю беларускіх НПЗ. Па словах прэзідэнта, ёсць канкрэтны праект рэканструкцыі аднаго з прадпрыемстваў агульным аб'ёмам інвестыцыяў каля 180 мільёнаў долараў. Аднак А.Лукашэнка зноў заявіў, што пры роўных умовах перавага будзе аддадзеная расійскаму капіталу.

А.Лукашэнка паведаміў, што сума запазычанасці за пастаўленыя нафтапрадукты перавышае сёння 150 мільёнаў долараў. У гэтай сітуацыі, як аказваецца, вінаваты расійскі бок: *«Калі мы пастаўляем на рынак Расіі сваю прадукцыю, мы адтуль, на жаль, не атрымліваем грошай... Калі б была аплата з боку Расіі за нашы тавары, не было б праблем у разліках — не толькі за нафту, але і за газ»*.

А.Лукашэнка падкрэсліў, што калі расійскі бок стане патрабаваць аплаты выключна ў валюце, то доўг Беларусі будзе ўзрастаць. Адным словам, не спадзявайцеся, браты-расіяне: плаціць мы вам не збіраемся.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

# Беларусь спыніла пераход да рынку

**Беларусь не толькі не ідзе па шляху рынкавых пераўтварэнняў, але павярнула назад — аб гэтым казаў кіраўнік прадстаўніцтва Сусветнага банка (СБ) Дэвід Філіпс у Магілёве на семінары «Эканамічныя рэформы і органы мясцовага самакіравання».**

У мінулым годзе СБ падпісаў з беларускім урадам Мемарандум аб узаемаразуменні. Каб паспрыяць гэтаму ўзаемаразуменню, у рамках Мемарандума і арганізаваны цыкл рэгіянальных семінараў, першы з якіх прайшоў у Магілёве.

Натуральна, што нашы чыноўнікі абаранялі эканамічную палітыку беларускай дзяржавы. Намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкама і «сенатар» Мікалай Жук, напрыклад, заявіў: *«Мы павінны абапірацца ў нашай дзейнасці не столькі на пазіцыю Сусветнага банка, колькі на думку нашых выбаршчыкаў»*. Маўляў, людзі не жадаюць мець свабодныя цэны і пагрозу беспрацоўя, працаваць у прыватных прадпрыемствах, *«а менавіта гэтыя наступствы вынікаюць, калі ісці па шляху, прапанаваным Сусветным банкам»*.

Па словах доктара эканомікі Дэвіда Філіпса, Беларусь ужо няма падставаў разглядаць як краіну з пераходнай эканомікай, паколькі рынкавыя пераўтварэнні спыніліся і ніякага пераходу фактычна няма. На думку замежнага фінансіста, наша дзяржава празмерна кантралюе эканоміку, а адсюль вынікае недахоп інвестыцыяў, немагчымасць весці нармальны бізнес. А для «простых людзей» такая дзяржаўная палітыка вылiваецца ў некалькі абменных курсаў, інфляцыю, знікненне з крамаў тавараў. У адказ на словы замежнага эксперта нашыя чыноўнікі традыцыйна заклікалі ацаніць тыя *«сацыяльныя заваёвы, якія захоўваюць у Беларусі мір і спакой»*.

Аднак пры гэтым беларускія ўлады зусім не супраць заходніх грошай. Чыноўнікі заклікалі не зважаць на недахопы ў руху краіны да рынку і падтрымліваць праекты, якія будуць спрыяць такому руху. Як прыклад прыводзіўся праект стварэння ў Магілёве тэхнапарка. У ідэале ён стаў бы месцам, дзе напрацоўваецца тая самая рынкавая эканоміка, новыя формы бізнесу, развіваюцца прадпрымальніцкія структуры. Але замежнікам ніхто не паведаміў, што гэты шматпакутны праект стаіць на месцы ўжо амаль 3 гады і сведчыць ён як раз аб нашым няўменні скранууцца ў бок рынку?

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Камерцыйныя аптэкі на мяжы экспрапрыяцыі

*(Пачатак на стар. 1)*

Як ставяцца да планаў ліквідацыі камерцыйных аптэк прадпрымальнікі? Віцэ-прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў Аляксандр Патупа здзіўлення такімі планамі не выказаў. Патупа лічыць, што пасля фактычнай манапалізацыі дзяржавай знешняга гандлю, нацыяналізацыя прыватнай аптэчнай сістэмы, якая падпітваецца ў асноўным за кошт імпарту, выглядае заканамерным крокам. *«Мы ставімся да гэтага рэзка адмоўна, як і да ўсіх захадаў па манапалізацыі ў эканоміцы і кіравання ёю адміністратыўнымі метадамі»*, — сказаў віцэ-прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў. На думку Патупы, стаўшы на такі шлях, Беларусь фактычна ідзе ад гандлю да размеркавання, знаёмага нам па савецкіх часах. Далей будзе дэфіцыт пры непазбежных пустых паліцах і гандлі праз чорны ход з дапамогай пароля: «Я ад Іван Іванавіча». У тым ліку і ў аптэках. *«З сапраўдным клопатам аб здароўі насельніцтва гэтая палітыка не мае нічога агульнага»*, — лічыць Аляксандр Патупа.

А што думаюць на гэты конт у міністэрстве аховы здароўя? Адказны супрацоўнік міністэрства Алег Грабоўскі каментаваць праект прэзідэнцкага дэкрэта рашуча адмовіўся, папярэдзіўшы, што нашыя спробы атрымаць каментар ад кіраўніцтва міністэрства будуць марнымі. Між тым, нам стала вядома, што міністр аховы здароўя Ігар Зелянкевіч праект дэкрэта ўжо завізіраваў. Якія тут, сапраўды, могуць быць каментарыі...

Цяпер у Мінску дзейнічае 35 камерцыйных аптэк і 70 дзяржаўных. А ў цэлым па Беларусі толькі прыкладна 20% аптэк ад агульнай колькасці з'яўляюцца недзяржаўнымі. Як паведамілі нам у міністэрстве аховы здароўя, усе прыватныя аптэкі рэгулярна правяраюцца: кантралюецца рост цэнаў на лекі, іх адпаведнасць тэрміну годнасці, іншыя параметры. За парушэнні прыватнікаў пазбаўляюць ліцэнзіяў на продаж лекаў і прэпаратаў. *«У мінулым месяцы, напрыклад, па ўсёй краіне мы забралі 16 ліцэнзіяў, але месяцам раней не быў пакараны ніхто»*, — паведаміў нам супрацоўнік міністэрства, які не пажадаў назваць сваё прозвішча. У цэлым, па яго-ных словах, прэтэнзіяў да камерцыйных аптэк не больш, чым да дзяржаўных.

Але гэта ўжо, пэўна, мала каго цікавіць. Мяркуючы па ўсім, прыватны аптэчны бізнес у Беларусі ўжо прыгавораны.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

# На замку не мяжа, а інфармацыя

Чыноўнікі, здаецца, пачалі спаборніцтва: хто больш інфармацыі ўтоіць ад недзяржаўных СМІ. Вось і прэс-служба пагранічнага камітэта, якая раней была дастаткова камунікабельнай у адносінах з журналістамі, раптам пачала праяўляць звышасцярожнасць.

Карэспандэнт НАВІНАЎ марна спрабаваў атрымаць афіцыйную інфармацыю аб выніках візіту камандзіра беларускіх памежнікаў Аляксандра Паўлоўскага на Украіну. Як паведамляла нашая газета ў мінулым нумары, генерал-лейтэнант Паўлоўскі два дні сустракаўся з украінскім калегам Віктарам Банных. Аднак калі Паўлоўскі вярнуўся «на родную заставу», у ягонай прэс-службы не ўдалося нічога разведаць. Палкоўнік Васіль Кіптэнка, які ў камітэце пагранвойскаў адказвае за кантакты з прэсай, знайшоў магчымым пацвердзіць толькі тое, што «сустрэча сапраўды адбылася».

А вось шэф украінскіх памежнікаў — чалавек зусім іншы. Віктар Банных без усякіх праблемаў, з вайсковай дзелавітасцю, але весела і жыццярадасна, па тэлефоне даў інтэрв'ю НАВІНАМ, расказаўшы аб мэтах і выніках размовы з беларускім калегам. Як вынікае са словаў В.Банных, украінцы маюць да беларускіх памежнікаў не тое каб прэтэнзіі, але «пажаданні». Украіна хацела б, каб мы хутчэй ратыфікавалі пагадненне аб прызнанні сумесных межаў, заключанае ў жніўні мінулага года. (Вярхоўная рада Украіны гэта ўжо зрабіла, а ў лукашэнкаўскага «сабрання» ўсё рукі не даходзяць). Трэба ўнесці карэкціроўку і ў дамову 1992 года аб сумеснай ахове мяжы, з якой пачалося стварэнне міжнародных пераходаў з Беларусі на Украіну і наадварот. Украінцы прапануюць перанесці акцэнт на павялічэнне колькасці пераходаў з так званым мясцовым статусам — для суседзяў. Праект адпаведнай дамовы ўжо год як перададзены з Кіева, але ў Мінску ўсё ніяк не «ўзгодняць пазіцыі».

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Беларусь готова принять нового посла Польши

*А с проблемами на границе придется подождать*

В прошлую пятницу в Варшаве завершился второй раунд польско-белорусских консультаций на уровне начальников департаментов министерств иностранных дел.

Белорусскую делегацию возглавлял начальник Второго политического управления Е.Юшкевич, а польскую — директор департамента «Европа-Восток» г-н Мельцарек. Консультации проходили в дни, когда министр иностранных дел Польши Бронислав Геремек находился с визитом в республиках Средней Азии.

По мнению руководителя белорусской делегации Е.Юшкевича, консультации прошли успешно. Белорусская сторона отошла от высказывания претензий в связи с ужесточением правил въезда белорусов в Польшу. Консультации подтвердили, что одним из путей решения проблемы могло бы стать подписание договора о безвизовых поездках между двумя странами, а также договора о реадмиссии, т.е. возвращении приехавших из соседней страны «нежелательных» персон. Польская сторона настаивает на одновременном подписании обоих этих договоров. Еще в начале года посол Беларуси в Польше В.Бурский заявил о готовности нашей страны подписать оба эти договора. Однако и на сегодняшний день, по словам Е. Юшкевича, еще остаются *«технические аспекты, которые еще нужно согласовать»*, и поэтому *«говорить сегодня, что да — мы его сейчас вот подпишем, — еще рано»*.

Как стало известно, Беларусь готова принять нового посла Польши: «агриман» (официальное согласие) подписан, хотя еще Польше не передан. После выполнения этой дипломатической процедуры произойдет официальная номинация Мариуша Машкевича, уже утвержденного Сеймом на пост посла в Беларуси.

Во время консультаций белорусской делегацией был затронут и вопрос о предоставлении польскими властями статуса политического беженца белорусскому бизнесмену Александру Пупейко. Представитель польской дипломатии выразил по этому поводу удивление: решение принято, Пупейко получил убежище в Польше, и возвращение к этой проблеме может свидетельствовать лишь о приверженности белорусского МИДа к методам давления в дипломатической практике.

**Людмила ГУЛЯКЕВИЧ,**
*Варшава*

# Депутаты Круговой и Кашкан подались в бега

*Даже членам президентского парламента приходится скрываться за границей*

Уже полгода пустует кабинет заместителя председателя бюджетной комиссии Валерия Кругового; еще со времен Верховного Совета не выполняет свои профессиональные обязанности депутат, в прошлом заместитель управляющего делами президента Георгий Кашкан...

### Жертва «Торгэкспогейта»

Тучи над Георгием Кашканом начали сгущаться еще в апреле 1996 года, когда Александр Лукашенко подписал распоряжение о приостановке деятельности «Торгэкспо», и специальная межведомственная комиссия во главе с тогдашним генеральным прокурором Василием Капитоном занялась проверкой Управления делами президента. В поле зрения ревизоров, естественно, попало и «Торгэкспо». Напомним, что 22 ноября 1995 года Александр Лукашенко подписал распоряжение N230рп «О предоставлении налоговых льгот государственному торгово-экспозиционному предприятию «Торгэкспо». Согласно этому документу предприятие освобождалось от уплаты таможенных пошлин, акцизов и налога на добавленную стоимость. А поскольку одним из самых прибыльных товаров в наше время являются алкогольные напитки, «Торгэкспо» принялось насыщать бездонный российский рынок дешевым импортным горячительным. В Россию хлынули вагоны водки «Петров» и «Черная смерть», принесшие баснословные барыши как российским коммерсантам, так и ведомству Ивана Титенкова. Однако через некоторое время Александр Лукашенко решил, что коммерсанты его обманывают, и дал команду проверить деятельность «Торгэкспо».

На территории Беларуси весной 1996 года было арестовано более 400 вагонов спиртных напитков, поступивших в адрес «Торгэкспо». Уже тогда мы предполагали, что скандал вокруг льготируемого предприятия может закончиться кровавыми разборками, ибо российские партнеры в случае конфискации водки теряли десятки, а возможно, и сотни миллионов долларов.

И хотя 13 мая Александр Лукашенко сменил гнев на милость и дал указание государственному секретарю Совета безопасности Виктору Шейману вернуть спиртное законным владельцам, полукриминальный российский бизнес не простил белорусским деловым партнерам потерянной из-за ареста водки прибыли. 2 июля 1996 года в Минске было совершено покушение на одного из учредителей ООО «Сапфия» Дмитрия Масловского, который тоже был причастен к водочному бизнесу «Торгэкспо».

Лишь благодаря мужеству охранника, закрывшего своего босса грудью, Дмитрий Масловский остался жив, а верный страж через несколько дней скончался в больнице.

Впрочем уже тогда московская мафия охотилась не только за Масловским, но и за Кашканом.

У тогдашнего заместителя управляющего делами президента Георгия Кашкана было больше возможностей обезопасить свою жизнь. Долгое время он скрывался на правительственных дачах, опасаясь появляться даже в Овальном зале Верховного Совета. От киллеров г-ну Кашкану удалось скрыться. А вот от судьбы — нет...

Утром 25 августа 1996 года «Мерседес-600» под управлением сотрудника коммерческой фирмы «Асатор» двигался в сторону Лепеля. В автомашине находился г-н Кашкан вместе со студенткой БГУ. Неподалеку от деревни Барсуки водитель не справился с управлением, и автомобиль вылетел в кювет. В результате аварии Георгий Кашкан получил серьезную травму головы, а его спутница сломала бедро.

Любопытно, что ведомство Ивана Титенкова сразу же после сообщения об этой аварии в СМИ от г-на Кашкана отмежевалось, заявив, что он уже месяц как уволен с должности заместителя управляющего делами президента. Хотя в милицейских протоколах г-н Кашкан числился именно в этом качестве. Маловероятно, что милиционеры не проверили у попавшего в аварию человека служебное удостоверение прежде, чем фиксировать в документах столь солидную должность. Так что, скорее всего, г-на Кашкана просто уволили задним числом, свалив на него все грехи «Торгэкспо». Тем более, что у него был достаточно комфортный «запасной аэродром»: как депутат Верховного Совета, Кашкан мог в любой момент устроиться на постоянную работу в качестве законодателя.

Однако после аварии Георгий Кашкан не спешил приступать к законотворческой деятельности. Он не появился в зале заседаний Верховного Совета даже в дни ноябрьского конституционного кризиса, когда президентской фракции «Согласие», заместителем председателя которой Георгий Кашкан поначалу числился, были крайне необходимы лишние голоса. Не объявился он и после президентского триумфа, когда победители перераспределяли депутатские мандаты.

Несмотря на отсутствие, президентского соратника зачислили в состав палаты представителей заочно. Так Георгий Кашкан стал депутатом нижней палаты парламента, причем, как утверждают злые языки, сам он об этом узнал не сразу и уж во всяком случае горячего желания вернуться к законотворческой работе не проявил. Весь год Георгий Кашкан вообще не появлялся на родине. По некоторым сведениям, он проживает на Кипре. Доподлинно неизвестно, почему бывший соратник всемогущего Титенкова не рискует наведываться в родные пенаты. Маловероятно, чтобы Георгий Кашкан опасался мести криминальных структур. В таком случае он бы, наоборот, вернулся в Беларусь — под защиту президентской службы безопасности. Очевидно, «невозвращенец» больше опасается как раз своих бывших соратников.

Любопытно, что правоохранительные органы Беларуси пока не настаивают на выдаче Георгия Кашкана. Для Александра Лукашенко такая снисходительность весьма нетипична. Возможно, от преследования Георгия Кашкана спасает то, что в свое время он был причастен к узкому кругу лиц, знающих немало финансовых тайн нынешних власть предержащих. А, возможно, он и сейчас вхож в этот круг, только работает в какой-нибудь оффшорной зоне...

### Круговой все-таки скрылся

Еще более показательна судьба другого депутата-беглеца — Валерия Кругового. Он исчез из поля зрения журналистов и парламентариев сразу после первой сессии национального собрания. Естественно, поползли слухи — разные, в том числе и самые фантастические. Одни утверждали, что Круговой в Москве, другие находили следы его пребывания в Австрии, третьи говорили о Кипре. Как нам удалось выяснить, на самом деле депутат находится в Польше. По крайней мере, еще в июле прошлого года он приобрел в этой стране дом и отправил туда семью. В конце лета Беларусь покинул и сам депутат.

Уголовное дело, в котором фигурирует Валерий Круговой, было возбуждено еще в октябре 1995 года. Вначале его подозревали в злоупотреблении служебным положением, а после ревизии возглавляемого им АКБ «Европейский» претензий у следствия значительно прибавилось. От ареста Кругового спасло только избрание депутатом. Тем не менее твердых гарантий депутатский мандат Валерию Круговому не дал. Вероятно, именно этим объяснялась противоречивая политическая позиция парламентария: он то вступал во фракцию «Гражданское действие», то вновь возвращался в ряды независимых депутатов.

Во время ноябрьского кризиса Валерий Круговой был в числе тех, кто подписал обращение об импичменте президенту. Он же был первым, кто снял свою подпись — за это ему обещали закрыть уголовное дело и сохранить депутатскую неприкосновенность. Обещание было выполнено частично. Депутатом палаты представителей Валерий Круговой стал, но дело через какое-то время возобновили (по другой версии — и не закрывали). Более того, следственные органы все настойчивее вызывали его для дачи показаний по делу. В конце концов, вероятно, устав ждать выполнения обещания, Валерий Круговой покинул страну, чтобы не оказаться за решеткой.

**«Белорусская деловая газета»**



*Сначала Валерий Круговой только разводил руками. В конце концов он покинул страну, чтобы не оказаться за решеткой.*

*Заявление российских правозащитников*

# Преследование за взгляды и убеждения – недопустимо

За последние недели в Беларуси вновь усилилось противостояние властей и оппозиции. Особенно острый характер приняло преследование правоохранительными органами молодых участников акции 2 апреля 1998 года, которые протестовали против союза наших стран. Около четырех десятков демонстрантов, в том числе несовершеннолетние, и руководители Белорусского Народного Фронта были задержаны людьми в штатском. Некоторые понесли административное наказание в виде ареста на 10-15 суток, около десяти человек ожидают суда по возбужденным уголовным делам с обвинениями в организации беспорядков и сопротивлении работникам милиции. Этим молодым людям, также как и недавно осужденным А.Шидловскому и В.Лабковичу, грозит тюремное заключение на продолжительный срок в связи с их активной антипрезидентской деятельностью.

Не разделяя некоторые убеждения участников подобных акций и не всегда совпадая с ними в выборе методов протеста (например, сжигании российского флага), мы категорически протестуем против уголовного преследования участников и организаторов акций белорусской оппозиции. Помимо того, что мы считаем неправомерным преследование за взгляды и убеждения, каким бы ненасильственным образом они ни выражались. Необходимо отметить и следующие обстоятельства. Неадекватные действия властей и, особенно, тюремные сроки за участие в подобных акциях служат только эскалации антироссийских настроений среди части белорусского народа, и в частности, молодежи. Этому же способствует и молчание российского общества, и поддержка белорусских властей руководством РФ. В условиях правительственного кризиса в России власти Беларуси активно используют протесты оппозиции против союза с Россией в качестве удобной «карты» как для подавления инакомыслия в своей стране, так и для оказания давления на российские «верхи» и средства массовой информации. Только совместный протест против безжалостного преследования несогласных с белорусским президентом и его политикой может помочь демократическим силам обеих стран найти выход из тупика навязываемого нам силой союза властей, а не народов.

Мы призываем немедленно остановить раскручивающийся маховик репрессий, не дать властям организовать новые политические процессы над молодыми оппозиционерами и, тем самым, еще больше углублять внутренний кризис в Беларуси, раскалывая общество по линии отношения с Россией. Мы призываем власти РФ ясно и недвусмысленно заявить белорусской стороне о невозможности развития союзных отношений между нашими государствами до тех пор, пока в Беларуси будут продолжаться репрессии против несогласных.

**Л.АЛЕКСЕЕВА**, Московская Хельсинкская группа, **В.АБРАМКИН**, Общественный центр содействия реформе уголовного правосудия, **М.АРУТЮНОВ**, Международная правозащитная ассамблея, **Б.АЛЬТШУЛЕР**, **А.СМИРНОВ**, Московский исследовательский центр по правам человека, **Е.БОННЭР**, **Ю.САМОДУРОВ**, Центр-музей им.А.Сахарова, **В.БАХМИН**, Московская Хельсинкская группа, **В.БОРЩЕВ**, депутат Госдумы, Общественная палата по правам человека, **С.ГАННУШКИНА**, Комитет «Гражданское содействие», **В.ГЕФТЕР**, Институт прав человека, **С.ГРИГОРЬЯНЦ**, **В.ОЙВИН**, Фонд «Гласность», **Т.КАСАТКИНА**, **О.ОРЛОВ**, «Мемориал», **С.КОВАЛЕВ**, депутат Госдумы, **Р.МАКСУДОВ**, Центр «Судебно-правовая реформа», **Л.ПОНОМАРЕВ**, Московская Хельсинкская группа, **М.ПОЛЯКОВА**, Независимый экспертно-правовой совет, **А.ПРИСТАВКИН**, писатель, Комиссия при президенте РФ по вопросам помилования, **А.СИМОНОВ**, Фонд защиты гласности, **С.СОРОКИН**, движение «Против насилия», **Г.ЯКУНИН**, Комитет защиты свободы совести

## *Больш за 1.700 абшчынаў праваслаўнай, стараверскай і розных пратэстанцкіх цэркваў Беларусі святкавалі дзень Уваскрэсення Хрыстова 19 красавіка*





*Акрамя ўрачыстых набажэнстваў, у цэрквах адбываўся абрад асвячэння велікодных ласункаў (на здымку злева). А ў нядзелю у многіх гарадах і вёсках ладзіліся і свецкія народныя гулянні — са спевамі і танцамі.*

### Нарвежцы падсаладзілі сірочую долю мёдам

**1.600 сем'яў Магілёўскай вобласці, якія ўзялі на выхаванне дзяцей-сіротаў, атрымалі падарункі ад Нарвежскага Чырвонага Крыжа.**

Замежныя дабрачынцы даслалі пакеты з мукой, крупамі, гарбатай, маргарынам і мёдам. Кошт адной пасылкі — каля 300 тысячаў рублёў.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

### Дзеткам цесна

**Летась на Гомельшчыне 911 дзетак засталіся без апекі бацькоў.**

Усіх іх пасялілі ў дзіцячыя інтэрнаты, дзе сёння катастрафічна не хапае свабодных месцаў. У вобласці 27 такіх установаў, выхоўваюцца ў іх больш за 4 тысячы сіротаў, а таксама дзяцей з асаблівасцямі псіха-фізічнага развіцця. Гэта на 25% перавышае лічбу, на якую разлічаныя інтэрнаты, а колькасць такіх дзетак апошнім часам рэзка ўзрастае.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

### Палешукі – народ стойкі

**Паводкай (сёлета — ужо другой па ліку) у Гомельскай вобласці падтоплена больш чым 500 уласных падворкаў; вада заліла 50 гарадскіх дамоў.**

Усяго ж ад разліву рэк на Гомельшчыне гэтай вясной пацярпелі населеныя пункты васьмі раёнаў. Палешукі, нягледзячы на нязручнасці і пагрозу здароўю, пакінуць свае дамы адмовіліся.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## На мясакамбінаце скандал. Хто вінаваты?

**Яшчэ не супакоіліся страсці вакол «спіртовай» справы Бабруйскага гідролізнага завода, а ўжо разгортваецца скандал на мясакамбінаце горада.**

Праверкі выкрылі факты злоўжыванняў, у выніку якіх дзяржава панесла страты на мільярды рублёў. Напрыклад, на адрас украінскай фірмы «Кіеўтрансэнерга» было пералічана 3 мільярды рублёў за прапанаваную ялавічыну. Пазней высветлілася, што такой фірмы ўвогуле няма. А ў санкт-пецярбургскую фірму «Эксперымент», па словах пракурора Магілёўскай вобласці Анатоля Дудкіна, наадварот, ялавічына была адпраўленая без перадаплаты, а пазней стала вядома, што няма ў горадзе на Няве ніякіх «эксперыментаў». І вось, апошні выпадак, які яшчэ толькі даследуецца: міліцыя затрымала 20 тон ялавічыны, па паперах, мяса ішло з Бабруйска ў Расію як аплата бартэра.

Аднак звяртае на сябе ўвагу такая акалічнасць: у апошнія гады Бабруйскі мясакамбінат працаваў вельмі добра. Раслі тэмпы вытворчасці, у мясакамбіната былі жывыя грошы, прадпрыемства ўкараняла новыя тэхналогіі, пашырала асартымент прадукцыі, стабільна і своечасова плаціла заробкі. Аднак у сённяшніх умовах немагчыма нармальна прадаваць выробленую прадукцыю: шматлікія забароны, уведзеныя мясцовымі і цэнтральнымі ўладамі, перашкаджаюць гэтаму. На думку мясцовых назіральнікаў, менавіта гэта і стала прычынай таго, што камбінат пачаў пускаць прадукцыю «налева», — проста каб выжыць.

Узбудзілі крымінальную справу, дзяржкантроль прапануе вызваліць дырэкцыю ад займаных пасадаў. Хутчэй за ўсё, так і зробяць. Але тых, хто на самой справе вінаваты ў абсурднасці сённяшняй эканомікі, канечне ж, не пакараюць.

**Іван ЗАСАДА**

*ПРЫРОДА*

## Марш у пушчы

**Гэтымі днямі дзяржаўны нацыянальны парк Белавежская пушча ў трэці раз праводзіць свята «Марш паркаў».**

Гэтая міжнародная прыродаахоўная акцыя праводзіцца з 19 па 22 красавіка ў рамках Дня Зямлі. Яе галоўная мэта — прыцягнуць увагу грамадскай думкі да унікальных прыродных тэрыторыяў. Супрацоўнікі Белавежскай пушчы запрашаюць усіх, каму дарагая непаўторная прырода Беларусі, унесці пасільны ўклад у яе ахову і падтрыманне. У часе Маршу супрацоўнікі Белавежскай пушчы з дапамогай добраахвотнікаў праводзяць добраўпарадкаванне тэрыторыі нацыянальнага парка, экскурсіі, віктарыны, урокі на тэму аховы прыроды. Праводзяцца таксама творчыя конкурсы — дзіцячага малюнка на тэму «Свет запаведнай прыроды» і на лепшую замалёўку аб прыродзе.

Нацыянальны парк Белавежская пушча запрашае ўсіх грамадзянаў, прадпрыемствы і арганізацыі зрабіць пасільны ўклад у захаванне беларускай прыроды, у наступныя гады стаць спонсарамі Маршу паркаў у любой форме — грашовых укладанняў, тавараў, паслуг, рэкламнай дзейнасці. Фірмы-спонсары атрымаюць права ўстанавіць свой рэкламны шчыт каля цэнтральнага ўваходу ў нацыянальны парк, а імёны дабрачынцаў занясуць у «Кнігу спонсараў Белавежскай пушчы».

Адзначым, што летась у часе Маршу паркаў на падтрымку галоўнага нацыянальнага парка краіны былі сабраныя сродкі, эквівалентныя тром тысячам долараў. У гэтым годзе Белавежскай пушчы будзе ўручаны Еўрапейскі дыплом за асаблівыя поспехі ў справе аховы прыроды, а ў 1999 г. нацыянальны парк будзе святкаваць свае 60-я ўгодкі.

*БелаПАН*

## У вёсцы – не жыццё

**Толькі ў адным Столінскім раёне Брэсцкай вобласці дэмаграфічная сітуацыя не выклікае сур'ёзнай заклапочанасці спецыялістаў.**

Апошнія тры гады на Брэстчыне, як і ўвогуле па краіне, смяротнасць перавышае нараджальнасць. На сёння колькасць гарадскога насельніцтва вобласці складае 930,6 тыс. чалавек, у вёсках жыве амаль удвая менш — 570 тысячаў, і гэта пры тым, што на Заходнім Палессі самыя вялікія ў Беларусі вёскі. У параўнанні з 1990 годам колькасць сельскага насельніцтва скарацілася амаль на 10% — за кошт смяротнасці, нізкай нараджальнасці і высокай міграцыі маладых людзей у горад.

Спецыялісты лічаць, што пакуль беларуская вёска будзе заставацца беднай, пазбаўленай элементарных умоваў для працы і адпачынку, ніякія захады на мясцовым узроўні сітуацыю не зменяць.

*БелаПАН*

## Даты і лёсы

### *21 красавіка*

Паводле антычнага гісторыка Варона, у гэты дзень у 753 г. да н.э. быў заснаваны Рым.

**1785.** Кацярына II падпісала «Грамату на правы і выгоды гарадам Расійскай імперыі» — кволае падабенства Магдэбургскага права. Пасля далучэння да імперыі заканадаўчая ўлада ў беларускіх гарадах перайшла ад магістратаў да гарадской думы. У Мінску гэта адбылося ў 1795 г., і хоць магістрат існаваў да 1870 г., але займаўся толькі судовымі справамі і рэкруцкім наборам.

**1926.** Дзень нараджэння яемосці каралевы Вялікабрытаніі Елізаветы II (правіць з 1952 г.).

**1921.** Пачала выходзіць газета «Чырвоная змена». Першыя пяць гадоў выдавалася на рускай мове пад назвай «Красная смена».

**1938.** У Берліне адбылася прэм'ера 4-гадзіннага фільма «Алімпія». Падлічана, што ў ім задзейнічана 1,5 млн. чалавек. Фільм мусіў засведчыць пераемнасць культуры Трэцяга Рэйха ад антычнай цывілізацыі: старажытнагрэцкія скульптуры ажываюць на экране ў вобразах нямецкіх спартсменаў-алімпійцаў са свастыкай на грудзях. Аўтар карціны Лені Рыфеншталь засталася самай вядомай жанчынай-рэжысёрам у гісторыі кіно.

**1990.** Пол Макартні сабраў на стадыёне «Маракана» ў Рыо-дэ-Жанейра найвялікшую для платнага канцэрта аўдыторыю — 180.000 чалавек.

### *22 красавіка*

**1500.** Партугальскі мараход Педру Альварэш Кабрал адкрыў Бразілію.

**1760.** Першая згадка пра ролікавыя канькі: у гэты дзень на прыватным канцэрце ў Лондане адзін са скрыпачоў катаўся на каньках па зале, пакуль не ўрэзаўся ў люстэрка.

**1838.** Атлантыку пераплыў першы параход — англійскі *Sirius*. Падарожжа ў Нью-Йорк заняло 18 дзён 10 гадзінаў. Да таго ў Новы свет плавалі толькі парусьнікі.

**1881.** У адзін дзень з Леніным (1870) нарадзіўся лідэр Часовага ўрада Аляксандр Керанскі. Пасля кастрычніцкага перавароту 1917 г. Керанскі ўцёк у Аўстрыю, адтуль — у Аўстралію, а памёр у ЗША.

### *23 красавіка*

**1398.** Вітаўт падпісаў у Гародні мірную дамову з крыжакамі, па якой Ордэн і Літва падзялілі сферы ўплыву: Вітаўт саступаў крыжакам Пскоў, а ў замен атрымліваў Ноўгарад.

**1616.** У адзін дзень памерлі два вялікія пісьменнікі — Сервантэс і Шэкспір.

**1858.** Нарадзіўся нямецкі фізік Макс Планк, аўтар рэвалюцыйнай квантавай тэорыі, за якую ў 1918 г. быў адзначаны Нобелеўскай прэміяй.

**1932.** ЦК ВКП(б) прыняў пастанову пра роспуск усіх пісьменніцкіх арганізацыяў і заснаванне адзінага Саюза савецкіх пісьменнікаў «з камуністычнай фракцыяй у ім».

**1971.** На спаборніцтвах у Вялікабрытаніі два дзядзькі, Г.Уіткамб і Д.Хардынг, за 7 г. 25 хв. аблушчылі 12.600 яек. Абодва рэкардсмены былі сляпыя.

**1984.** У ЗША было абвешчана пра адкрыццё віруса, які выклікае СНІД.

**1988.** Ажыў антычны міф. Паводле старажытнагрэцкай легенды, у гэты дзень узняліся ў неба Ікар і Дэдал. Першы разбіўся, а другі пераляцеў на штучных крылах праз Эгейскае мора з Крыта на востраў Санторын (каля 100 км). У 1988 г. грэк Канелас Канелопулас паўтарыў пералёт Дэдала на лятальным апараце з педалямі.

*Падрыхтаваў*
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

### З прыцэлам на Алімпіяду

**Новая вучэльня алімпійскага рэзерву адчынілася на Гомельшчыне.**

Яна размясцілася ў прыгарадзе Мазыра Козенках. Тут будуць рыхтаваць спартсменаў для нацыянальных зборных камандаў па футболе, веласпорце, веславанні, лёгкай і цяжкой атлетыцы.

**У.В.**

### Лельчыцы не Чыкага, але...

**Выбух злачыннасці назіраецца ў Лельчыцкім раёне Гомельскай вобласці.**

Калі летась за першыя месяцы было зарэгістравана толькі 35 злачынстваў, дык сёлета ўжо 65, што на 86% больш. Гэта самыя высокія тэмпы росту злачыннасці на Гомельшчыне.

Прычым за той жа час падлеткавая злачыннасць павялічылася ў Лельчыцкім раёне сёлета ўтрая, упершыню за многія гады падлеткі займаліся не толькі крадзяжамі, але і здзейснілі забойства. Большасць маладых злачынцаў нідзе не вучыцца і не працуе.

Мясцовая міліцыя пакуль што спраўляецца з хваляй крыміналу. Раскрывальнасць злачынстваў тут рэкордная — 100 працэнтаў. Але што будзе далей?

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1179 Нумар падпісаны ў друк 20.04.98 (15:00) Наклад — 19.650